Тэлепраграма з 24 па 30 ліпеня

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***


№ 59 (4208)

28 ліпеня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

SOS!

## За паўгода беларусаў паменела на 9,5 тысячы чалавек

Як паведамляе Нацыянальны статыстычны камітэт, колькасць насельніцтва Беларусі на 1 ліпеня гэтага года склала 9 мільёнаў 495,5 тысячы чалавек.

Для параўнання: на пачатак 2017 года колькасць насельніцтва краіны складала 9 мільёнаў 505 тысяч чалавек.

ГРЫМАСЫ ЧАСУ

# РОЗНЫЯ ДНІ:

## 27 ліпеня 1990 года і 27 ліпеня 2017 года




На добры лад, учора Беларусь павінна была святкаваць 27-ю гадавіну прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце краіны. На жаль, знамянальная дата засталася па-за ўвагай афіцыйных улад, толькі актывісты дэмакратычных структур з радасцю ўзгадвалі тое, што адбылося 27 ліпеня 1990 года.

Менавіта ў той летні дзень дэпутаты Вярхоўнага Савета 12-га склікання абвясцілі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі. Дэкларацыі быў нададзены статус канстытуцыйнага закона. З'явілася новая сімволіка – бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня". У краіне панаваў духоўны ўздым, тысячы людзей выходзілі на вуліцы і плошчы, выплёскваючы станоўчыя эмоцыі.

Да 1997 года 27 ліпеня адзначалася як дзяржаўнае свята – Дзень незалежнасці. Змены адбыліся пасля лістападаўскага рэферэндуму 1996 года, калі Днём незалежнасці вызначылі 3 ліпеня – дзень вызвалення Мінска ад фашысцкіх захопнікаў.

СІТУАЦЫЯ

# «Вярніце грошы!»

З пачатку 2017 года пратэрмінаваная запазычанасць прамысловых арганізацый па крэдытах і пазыках вырасла на 8 працэнтаў

Пратэрмінаваная запазычанасць па крэдытах і пазыках прамысловых арганізацый Беларусі (без уліку мікраарганізацый і малых пазаведамасных арганізацый) на 1 чэрвеня 2017 года склала 1 млрд 596,7 млн рублёў. З пачатку года яна павялічылася на 8%, за май – знізілася на 2,7%, паведамляе Белстат.

У цэлым запазычанасць па крэдытах і пазыках на 1 чэрвеня склала 34 млрд 965,9 млн рублёў – на 1,2% менш, чым на 1 студзеня гэтага года, і на 0,1% менш у параўнанні з паказчыкам на 1 мая.

Пратэрмінаваная крэдыторская запазычанасць за пяць месяцаў гэтага года павялічылася на 2,1% і склала 2 млрд 740,1 млн рублёў, з 1 мая – вырасла на 1,6%.

Крэдыторская запазычанасць у цэлым на 1 чэрвеня 2017 года склала 17 млрд 108,7 млн рублёў, або на 5,3% больш, чым на 1 студзеня, і на 5,9% больш у параўнанні з паказчыкам на 1 мая.

Знешняя пратэрмінаваная крэдыторская запазычанасць з пачатку года знізілася на 6,2% да 713,4 млн рублёў. За май яна скарацілася на 2,5%. У цэлым знешняя крэдыторская запазычанасць за пяць месяцаў павялічылася на 1,4% (да 4 млрд 837,9 млн), за май – на 2%.

Пратэрмінаваная дэбіторская запазычанасць вырасла з пачатку года на 8,1% і на 1 чэрвеня склала 4 млрд 81,5 млн рублёў (за май – рост на 0,2%).

Уся дэбіторская запазычанасць прамысловых прадпрыемстваў на 1 чэрвеня 2017 года склала 16 млрд 443,4 млн рублёў, або на 4,8% больш, чым на 1 студзеня, і на 3,3% больш у параўнанні з паказчыкам на 1 мая.

Знешняя пратэрмінаваная дэбіторская запазычанасць з пачатку года вырасла на 1,2% і склала на 1 чэрвеня 796,1 млн рублёў. З 1 мая яна вырасла на 0,7%.

У цэлым знешняя дэбіторская запазычанасць з пачатку 2017 года знізілася на 2,7% да 4 млрд 458,9 млн рублёў, за май 2017 года – на 2,8%.

Як раней заявіў намеснік дырэктара Цэнтра сістэмнага аналізу і стратэгічных даследаванняў Нацыянальнай акадэміі навук Георгій Грыц, «праблема даўгоў сапраўды вельмі актуальная», «пратэрмінаваная крэдыторская і дэбіторская запазычанасць арганізацый нясе пагрозу эканамічнай бяспецы Беларусі». Паводле яго слоў, у першую чаргу пад пагрозай знаходзіцца банкаўская сістэма, таму што выдаткі па абслугоўванні працэнтаў па крэдытах перавышаюць выдаткі на суму крэдыту. На думку Грыца, праблему, як паказвае сусветны вопыт, «трэба вырашаць хутка і радыкальна».

Кажучы пра высокую долю пратэрмінаванай дэбіторскай запазычанасці, эксперт адзначыў: «Гэта не новая праблема. Так, у ёй ёсць пагроза для прадпрыемстваў з пункту гледжання вымывання абаротных сродкаў і з пункту гледжання націску на дырэктараў: ты вызвалі склады, або мы цябе пасадзім. Няма ў прадпрыемстваў і разумення, каму яны аддаюць сваю прадукцыю на рэалізацыю або ў растэрміноўку плацяжоў. Націск дзяржавы прыхарашыць карціну з гэтай праблемай прыводзіць да таго, што мы маем».

**Марына НОСАВА.**

(БелаПАН.)

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Право на защиту...

Более месяца шла борьба жителей минского микрорайона «Осмоловка» за право жить на прежнем месте, без насильственного выселения куда-то из собственных давно приватизированных квартир. И хотя тема будущего отдельно взятого микрорайона столицы большинству остальных белорусов попросту до фонарной лампочки, хочется обратить внимание читателей на некоторые выявившиеся проблемы.

Оказывается, приватизированные нами квартиры не делают нас полновластными собственниками жилья. Государство в лице руководства городов (которое, кстати, от нас не зависит, ибо мы лишены возможности избирать мэров) определяет, жить ли нам и дальше на том же месте или нас выселят «в связи с государственной необходимостью». Причем эта необходимость – не война, не эпидемия, не стихийное бедствие. Государству захотелось продать тот или иной кусок земли иностранцу (ну, или иностранной компании). Оно продает эту землю, иногда даже не считая необходимым уведомить нас! Не объясняя ничего – ни о сути этой самой «необходимости», ни о механизме компенсации. Оно, а не мы, определяет, сколько стоит – по рыночному курсу – наше жилье и, рассматривая вопрос шире, наша собственность. Мы оказываемся если не крепостными, то во всяком случае арендаторами, которых государство может в любой момент согнать с обжитого места. Если кто не помнит – «Раскіданае гняздо» Янки Купалы именно об этом.

Второе. Депутаты местных Советов практически не реагируют на волю своих избирателей. Это понятно: никаких реальных механизмов воздействия на исполнительную власть у них нет, а значит, не она от них зависит, а депутаты от нее. То есть реально защитить интересы граждан некому, кроме самих граждан. В общем, спасение утопающих – дело рук самих утопающих, раз уж им так повезло, что они до сих пор не захлебнулись.

Третье. Отстоять права собственности жителям Осмоловки удалось лишь благодаря гласности вокруг поднятой ими проблемы. Все попытки «договориться втихаря» с властью не работают, потому что чиновники не зависят от избирателей, а план на привлечение зарубежных инвестиций им спускают сверху. Что должен делать чиновник? Продавать землю. А поскольку мы еще не привыкли к тому, что мы-то, белорусы, и есть хозяева на своей земле, а хозяин должен знать законодательство, регулирующее его право на собственность, то мы и сидим, ничего не ведая и ничего не делая, пока нас не клюнет в известное место жареный петух. Правда, когда он клюнет, чаще всего бывает уже поздно пить боржоми. Но в данном случае жителям Осмоловки повезло.

Четвертое. Чиновники не отвечают за принимаемые ими решения. Построили бестолковую гостиницу прямо на берегу Свислочи, в центре Минска. Ее строить в этом месте было нельзя, но кому-то захотелось, землю отвели, махину построили. Теперь комплекс ни ввести в строй, ни снести невозможно – денег нет. И продать невозможно – никто не покупает. Но ведь кто-то делал экспертизу, кто-то анализировал законы, кто-то принимал решение! Тогда почему это все было сделано, опять-таки, через то же самое место, куда жареный петух и клюет? И кто за это ответит? Я бы, например, отправил всех лиц, причастных к данному решению, на субботник, дабы вручную здание разбирали – ибо снести его иначе не получается. И зарплату положить как рабочим соответствующей квалификации – если следствие не предложит, а суд не решит иначе. Но, увы, суды у нас тоже зависят от чиновников больше, чем от народа.

Кстати, о судах. Вероятно, читатели не обратили внимание на то, что в течение последних недель происходило в Польше. Польша вернулась в наш 1996 год – в предреферендумное состояние. Парламентское большинство решило исподтишка изменить законодательство, подчинив судебную власть власти исполнительной. Четыре дня длилось противостояние. Тысячи людей выходили на улицы польских городов, защищая независимость судов – тех судов, которые они не слишком любят. Но просто граждане Польши поняли: фактическое изменение Конституции – подчинение судов политикам – поставит судьбу каждого из них под угрозу.

Настроение общества почувствовал и президент Польши: Анджей Дуда наложил вето на два законопроекта, вызвавшие столь массовые возмущения граждан. И, судя по всему, – вернее, конечно, сказать: будем надеяться – у правящей партии не хватит голосов, чтобы преодолеть это вето. Значит, Конституция Польши останется в неприкосновенности. И права граждан этой страны тоже.

А наши права, увы, защищать некому. Кроме нас самих.

БЛІЦ

*Лёс краіны павінен вызначацца не толькі прэзідэнтам, парламентам, урадам, але і мясцовымі Саветамі, усім грамадствам.*
*Жыццёвыя праблемы Мінска, сталіцы Беларусі, у многім будуць вырашацца дэпутатамі гарадскога Савета. Вось чаму так важна, каб уладальнікамі мандатаў сталі не падпявалы ўлад, не тыя, хто ўмее толькі пляскаць у далоні, а тыя, хто па-сапраўднаму здольны праявіць прынцыповасць у адстойванні грамадскіх інтарэсаў, чые погляды скіраваны не ва ўчарашні дзень, а ў заўтрашні.*
*"Народная Воля" звярнулася да шэрагу знакамітых людзей з пытаннем:*

# «Хто, на ваш погляд, можа быць дастойным дэпутатам Мінскага гарадскога Савета?»

**Эдуард ХАНОК, кампазітар, народны артыст Беларусі:**

– Мне ўсё роўна, хто будзе дэпутатам, таму што ў асноўным я жыву сам па сабе, і мне не патрэбны ніякія дэпутаты-памочнікі. Хаця я, напрыклад, вельмі рады, што спявачку Ірыну Дарафееву абралі ў Палату прадстаўнікоў. А вось выстаўляць сваю кандыдатуру на выбарах не лічу патрэбным, бо я – не змагар за правы ўсіх. Я змагар толькі за свае асабістыя правы. Але калі ўлады вырашаць, што магу прынесці карысць дзяржаве ці гораду і прапануюць стаць дэпутатам, то, можа, і не адмоўлюся. Дарэчы, калі я жыў у Маскве, мне паступіла прапанова балатавацца ў дэпутаты Дзяржаўнай думы ад Народнай партыі Генадзя Райкова. Але партыя не набрала неабходнай колькасці галасоў, на тым мой паход у дэпутаты і закончыўся.

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ, былы старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі:**

– Тых, хто дастойны патрапіць у Мінскі гарадскі Савет, столькі, што ўсіх нават пералічваць не буду. Але не думаю, што ў іх будзе вялікае жаданне ўдзельнічаць у гэтых выбарах, бо мясцовыя Саветы – дэкаратыўны орган. Іншая справа, што падчас гэтай кампаніі могуць правесці выбары па больш-менш нармальнай схеме, каб паказаць Захаду станоўчыя змены.

**Аляксандр МЯДЗВЕДЗЬ, трохразовы алімпійскі чэмпіён, ганаровы грамадзянін Мінска:**

– Мне падаецца, што ў дэпутаты трэба абіраць тых, хто добра зарэкамендаваў сябе на працы – у вытворчасці, бізнесе… Калі чалавек выдатна працуе, то разумее сутнасць праблем і можа рэальна дапамагчы людзям.

**Віктар ЯНЧУРЭВІЧ, каардынатар аргкамітэта грамадскага аб'яднання «Экаград», памочнік дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу:**

– У мясцовых Саветах павінны быць сапраўдныя прадстаўнікі народа, мясцовыя лідары, якія працуюць для паляпшэння якасці жыцця ў сваіх дварах і на прылеглых тэрыторыях. Яны павінны прадстаўляць інтарэсы сваіх выбаршчыкаў у камунікацыі з выканаўчай уладай і структурамі ЖКГ па праблемах добраўпарадкавання і развіцця тэрыторый, капрамонту і належнага ўтрымання жыллёвага фонду, у іншых праблемах лакальнага і не толькі значэння. Але трэба прызнаць, што нярэдка такія функцыі грамадзянам прыходзіцца браць у свае рукі – арганізоўваць ініцыятыўныя групы і самастойна адстойваць уласныя правы. Вось у такіх групах і ёсць лідары, вартыя дэпутацкіх мандатаў. І ў Мінску іх можна налічыць не адзін дзясятак.

**Дзмітрый УС, экс-кандыдат у прэзідэнты:**

– Не варта казаць пра "дастойных" дэпутатаў, бо іх абірае не народ, а ўлада. Я буду ўпэўнены ў гэтым да таго часу, пакуль ва ўсіх камісіях не ўбачу прадстаўнікоў дэмакратычнай грамадскасці і пакуль не будзе празрыстага для ўсіх назіральнікаў падліку галасоў. А сёння сітуацыя такая, што ступень "дастойнасці" дэпутатаў вызначае ўлада, а не я і не вы.

**Жанна БОЛСУН, сталічная прадпрымальніца, сябра савета РГА "Перспектыва":**

– Безумоўна, не перашкодзіць, калі ў Мінгарсавеце з'явяцца людзі, якія будуць адстойваць правы прадпрымальнікаў, але не думаю, што дэпутаты такога ўзроўню нешта вырашаюць. Таму абсалютна без розніцы, хто там будзе. Я ніколі са сваімі праблемамі да іх і не звярталася.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

АД РЭДАКЦЫІ

Знаёмячыся з адказамі на пытанне "Хто, на ваш погляд, можа быць дастойным дэпутатам Мінскага гарадскога Савета?", нельга не звярнуць увагу на недаацэнку нават знакамітымі асобамі важнасці фарміравання мясцовых "парламентаў". Ва ўсім цывілізаваным свеце менавіта яны ў многім вызначаюць жыццё рэгіёнаў, дабрабыт іх жыхароў. Вось чаму так важна, каб у Мінскі гарадскі Савет дэпутатаў трапілі не выпадковыя людзі, не прызначэнцы, а тыя, каму давераць свае галасы выбаршчыкі. Дэмакратызуючы сталіцу, можна падаць добры прыклад усёй краіне. Глядзіш, і Беларусь, як выказаўся класік, зойме "пачэсны пасад між народамі".

СКАЗАНА!

Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

## «Прыязджайце, глядзіце..."

Сумесныя стратэгічныя вучэнні Узброеных сіл Беларусі і Расіі пад назвай "Захад-2017" намечаны на сярэдзіну верасня. І вось ужо каторы месяц гэта тэма не сыходзіць з вуснаў палітыкаў розных краін, аналітыкаў, журналістаў… Закрануў яе ўчора і Аляксандр Лукашэнка падчас нарады з кіраўніцтвам Дзяржаўнага сакратарыята Савета бяспекі. Ён сказаў: *"Усе старыя пытанні – і заклапочанасць НАТА, і нашы суседзі, і ва Украіне я нядаўна быў – усім усё патлумачылі. Вучэнні адкрытыя, мы запрашаем або ўжо запрасілі вялікую колькасць назіральнікаў. Прыязджайце, глядзіце"*.

Паколькі з боку замежных каментатараў можна пачуць, што вучэнні могуць перарасці ў чарговую агрэсію Расіі, то А.Лукашэнка не мог не падкрэсліць: яны маюць выключна абарончы характар.

ІНВЕСТПРАЕКТ

## Кітайцы знайшлі дарогу на Віцебшчыну

200 мільёнаў долараў інвесціруе ў будаўніцтва малочна-таварных комплексаў на Віцебшчыне кітайская кампанія Drex Food Group Co., Ltd. На гэты раз пашанцавала сельгасвытворцам Талачынскага і Сенненскага раёнаў. Менавіта да іх знайшла дарогу буйнейшая кітайская малочная кампанія.

**Надзея СВІРСКАЯ.**

